# Віншуем вас з 2000 годам!



# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.



№ 1 (134). 30 снежня 1999г. — 5 студзеня 2000г. • Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. • Кошт 50.000 руб.

СЛОНІМШЧЫНА

## НА ЎСЕ СТО!



**2 студзеня 2000 года жыхар вёскі Мыслава Слонімскага раёна Пётр Пятровіч Гаркавы адзначыць сваё 107-годдзе.**

Жыве Пётр Пятровіч разам з сынам Іванам і нявесткай Соф'яй. Яны яго даглядаюць, шануюць і ганарацца сваім стогадовым бацькам. Калі дзед даведаўся, што да яго прыехалі журналісты, хуценька ўстаў з ложка, узяў свой муштук і, выйшаўшы на ганак, сеў на табурэт, каб сфатаграфавацца. Дарэчы, Пётр Пятровіч усё жыццё курыць тытунь. Сам яго садзіць, сушыць і круціць з тытуню самакруткі. Цывільных цыгарэт не прызнае, бо яны для яго вельмі слабыя.

Жыццё Пятра Гаркавага было нялёгкім. Увесь час працаваў на зямлі: араў, садзіў, касіў. І працаваў то на пана Міхайлоўскага, то на бальшавікоў, то на саветы. Але лепш за ўсё яму жылося, калі быў парабкам у пана. Пан глядзеў парабкаў, плаціў добрыя грошы, даваў жыллё, карову. За панскія грошы Пётр Пятровіч купіў сабе пасля вайны хату, дзе жыў са сваёй жонкай Аксінняй. У іх нарадзіўся сын Іван, з якім цяпер і жыве ў Мыславе, але ўжо ў сынавай хаце. У доўгажыхара ёсць унукі, праўнукі і прапраўнучка Ганначка. Праўда, узрост дае пра сябе знаць. Але Пётр Пятровіч яшчэ трымаецца. Са слыхам стала дрэнна, але гэта не бяда. Затое ёсць апетыт, сяды-тады і сто грам вып'е, пасмяецца з мільённай купюры, за якую добрую рэч не купіш, і не развітваецца з цыгаркай.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




Напярэдадні Новага года карэспандэнты "ГС" правялі апытанне нашых землякоў, якія адказалі на пытанні: 1. Чым для вас быў адметны 1999 год? 2. Чаго вы чакаеце ад 2000-га?

**Іван ЧАУС, палкоўнік, камандзір слонімскай механізаванай брыгады:**



1. 1999 год для мяне знамянальны тым, што ўсе пастаўленыя перад брыгадай задачы былі паспяхова выкананы. Дзякуй усім: салдатам, сяржантам і афіцэрам за добрасумленную службу! Дзякуй і тым, хто сёлета дапамагаў нашай брыгадзе.

2. У 2000 годзе мы будзем і далей умацоўваць адзінства арміі і народа. Слонімцы могуць быць упэўнены, што ў ліхі час асабовы склад брыгады стане іх надзейнай абаронай.

(Працяг на 2 стр.)





НАВІНЫ

### Хутка загучыць "Бі-Эй"

**На мінулым тыдні на слонімскім тэлевізійным рэтрансляторы ішлі падрыхтоўчыя работы па запуску ў эфір папулярнага сярод моладзі мінскага радыёканала "Бі-Эй".**

Калі дакладна на тэрыторыі Слонімшчыны будзе гучаць устойлівы сігнал гэтага канала, дырэктар рэтранслятара Вячаслаў Хомчык сказаць не змог. Аднак ён паведаміў, што 31 снежня ў эфіры будзе весціся выпрабавальная трансляцыя праграм.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### З'елі 7200 тон хлеба

**Жыхары Слоніма і Слонімскага раёна за ўвесь 1999 год з'елі 7200 тон хлеба і булак.**

Гэта на 132 тоны больш, чым летась. Аб гэтым карэспандэнту "ГС" паведаміла начальнік планавага аддзела слонімскага хлебазавода Людміла Губарэвіч.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## СЛОНІМШЧЫНА ў 1999 годзе

### ПАДЗЕЯ ГОДА



У жніўні Слонім стаў... прыфрантавым горадам. На некалькі тыдняў ён быў "акупіраваны" здымачнай групай мастацкага фільма "Момант ісціны (У жніўні 1944-га...)". Сотні слонімцаў змаглі паўдзельнічаць у масоўках, зарабіць трохі грошай ды паглядзець на знакамітых акцёраў, якія вельмі рэдка наведваюць наш горад.

### ЗДАБЫЧА ГОДА

У студзені супрацоўнікі слонімскай міліцыі затрымалі грамадзяніна Украіны, які скупіў у горадзе 303 кг сала і хацеў яго вывезці на сваіх "Жыгулях" на Бацькаўшчыну. Высветлілася, што рабіў ён гэта незаконна, таму і быў пакараны – сала і аўтамабіль канфіскавалі на карысць беларускай дзяржавы.

### ПЕРАМОГА ГОДА

У верасні слонімская 11-я гвардзейская механізаваная брыгада атрымала перамогу над умоўным праціўнікам на Абуз-Лясноўскім палігоне. Дзеянні слонімскіх вайскоўцаў міністр абароны Аляксандр Чумакоў ацаніў на "добра". Асаблівасцю тактычных вучэнняў стала вядзенне "баявых дзеянняў" з баявой стральбой, чаго ў гісторыі ўзброеных сілаў незалежнай Беларусі яшчэ не было.

### ЗАСЛАНКА ГОДА



21 верасня Слонімшчыну ў чарговы раз наведаў Аляксандр Лукашэнка. Нагодай для ягонага прыезду стала адкрыццё каля вёскі Парэчча газавай засланкі на беларускім участку газаправода "Ямал-Еўропа". Партнёрам Лукашэнкі быў кіраўнік "Газпрама" Рэм Вяхіраў. Засланку асвяціў епіскап Лідскі і Навагрудскі Гурый.

(Працяг на 2 стр.)

### Як будзе працаваць гарадскі транспарт на святы?

**Як паведаміла "ГС" намеснік дырэктара слонімскага аўтапарка № 3 Валянціна Жук, у святочныя дні адбудуцца некаторыя змены ў руху гарадскога транспарту.**

Напрыклад, 31 снежня аўтобусы будуць курсіраваць па гораду толькі да 23.00, а 1 студзеня пачнуць выходзіць на маршруты толькі ў 8 гадзін раніцы. Прыгарадныя аўтобусы будуць адпраўляцца ў вёскі толькі пасля абеду, а ранішніх рэйсаў не будзе. Міжгароднія аўтобусы ў святочныя дні курсіруюць у звычайным рэжыме.

**Сяргей ЁРШ**

## СОРАМНА

**Не хацелася на свята пісаць пра гэта, але прымушаюць. Аднак усё па парадку.**

27 снежня фонд Фрыдрыха Эберта (нямецкая арганізацыя, якая працуе ў адукацыйна-асветніцкім накірунку на Беларусі) запланаваў правесці рэгіянальны семінар. Тэма яго – "Дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі ў сучасных умовах". Былі запрошаны журналісты дзяржаўных і незалежных газет, а таксама прадстаўнікі мясцовага гарвыканкама, якія курыруюць друк. Прыняць удзел пагадзіліся і мінчане: прафесар права Міхаіл Пастухоў, эксперты прававвой абароны СМІ Юры Тапаршаў, Уладзімір Нісцюк і іншыя юрысты. Мэта семінару – абмеркаваць за сяброўскім сталом сённяшняе становішча мясцовага друку. Загадзя было замоўлена і месца яго правядзення – кафэ "Жемчужина", якое месціцца ў РДК. Арганізатары заплацілі грошы за абед і вячэру.

Здавалася, усё будзе палюдску. Аднак ужо раніцай, у панядзелак, у рэдакцыю "ГС" пазваніла адміністратар кафэ і паведаміла, што праводзіць семінар забараніў намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Тарсуноў. З якой нагоды?



*Аляксандр ТАРСУНОЎ*

– пацікавіўся я ў яго па тэлефоне. "Вы праводзіце несанкцыянаванае ўладамі мерапрыемства", – сказаў Аляксандр Міхайлавіч. І сапраўды, як толькі мінчане ступілі на парог РДК, на іх шляху паўстала суровая постаць таварыша Тарсунова. Намеснік старшыні літаральна адпіхваў людзей ад дома культуры, з крыкамі: "Я тут гаспадар! Не дазволю! Ідзіце туды, адкуль прыйшлі!"... Госці толькі развялі рукамі.

Семінар усё ж прайшоў. Але як сорамна за такіх начальнікаў. Вось каб таварыш Тарсуноў так актыўна, як "абараняў" РДК, працаваў у рамках сваіх абавязкаў: рабіў усё, каб у кожнай вёсцы працавалі лазні, у крамах было ўдосталь розных тавараў, у раён штодзённа хадзілі аўтобусы, ФАПы мелі лекі. Але ўсяго гэтага няма. Затое, каб забараніць, зачыніць – у гэтым плане чыноўніку няма роўных.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ● СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ● СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ● СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ●

## УТОПІЯ ГОДА

У чэрвені ў Слоніме ў водаправоднай вадзе былі выяўлены... чарвякі. Гэта сітуацыя разглядалася на пасяджэнні гарвыканкама, і ёй зацікавілася пракуратура. Аднак высветлілася, што чарвякі "няшкодныя для чалавека". Справа ў тым, што ў трубах водаправодаў назапасіўся ўнушальны пласт злучэнняў жалеза. Эпідэміёлагі сцвярджаюць, што выхад са становішча — у стварэнні новых сетак, аднак "у сённяшніх умовах — гэта ўтопія".



## ПАДПАЛЬШЧЫК ГОДА

Два падпалы запісаў на свой асабісты рахунак 6-гадовы Коля А. з вёскі Падмошша. У траўні ён спачатку падпаліў хату суседа, якая цалкам згарэла, а праз тыдзень наведаў вёску Сурынку і падпаліў сена ў адным з хлявоў. Пакуль выклікалі пажарных, ад хлява засталося толькі папялішча.

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ ГОДА

У лістападзе распачалася рэканструкцыя футбольнага поля стадыёна "Юнацтва". Яно будзе даведзена да нармальных стандартаў. Плануецца пабудова заходняй трыбуны на 4,5 тысячы месцаў з падтрыбуннымі памяшканнямі. З часам з'явяцца асвятляльныя мачты і сучаснае электроннае табло. Толькі б "Камунальнік" у наступным сезоне не падвёў...



## ПІКЕТ ГОДА

18 ліпеня ў Слоніме на Першамайскай вуліцы адбыўся санкцыянаваны ўладамі пікет, арганізаваны мясцовымі маладзёжнымі арганізацыямі "Малады фронт", "Вецразь", "Край" і інш. Паўтара дзесятка пікетоўшчыкаў імкнуліся прыцягнуць увагу моладзі да праблемы венерычных захворванняў на Слонімшчыне. Падчас акцыі прахожым было бясплатна раздадзена 150 прэзерватываў.



## ІНІЦЫЯТЫВА ГОДА

У ліпені дырэктар слонімскага краязнаўчага музея Ірына Шпыркова і дэпутат гарсавета Святлана Камардзіна пачалі збіраць подпісы жыхароў Камсамольскай вуліцы, каб перайменаваць яе ў вуліцу імя Іосіфа Стаброўскага. Аднак вядома, што Камсамольская вуліца сотні гадоў называлася Замкавай, і за аднаўленне менавіта гэтай назвы неаднаразова выступалі мясцовыя жыхары (аднак іх не падтрымалі ўлады). Як бачым, гэта яскравы прыклад "захавання" гістарычнай спадчыны ў сучаснай Беларусі...

## СТРАТА ГОДА

26 кастрычніка не стала найстарэйшага беларускага паэта, нашага земляка Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско). Партызан, падпольшчык, патрыёт, ён усё жыццё любіў сваю Бацькаўшчыну-Беларусь і заўсёды гаварыў толькі на роднай мове.



## ПІЛЬНАСЦЬ ГОДА

9 траўня 1999 года актывіст слонімскага БНФ, сябра камісіі па выбарах прэзідэнта Уладзімір Літвін абыходзіў са скрыняй для датэрміновага галасавання дамы выбаршчыкаў у Рышчыцах. Адзін з гаспадароў запрасіў яго ў хату і там зачыніў на замок, а сам выклікаў міліцыю і здаў ёй Літвіна. Пільны грамадзянін сам аказаўся супрацоўнікам міліцыі... 11 траўня франтавец быў аштрафаваны слонімскім судом на некалькі мільёнаў рублёў.

## УВЕКАВЕЧАННЕ ГОДА



У красавіку каля Шылавіцкай царквы мясцовымі вернікамі быў усталяваны вялікі драўляны крыж. Так была ўвекавечана памяць "усіх замучаных і забітых у часы бязбожных ганенняў". У прыватнасці, праваслаўнага святара Куца, па-зверску закатаванага савецкімі актывістамі ўвосень 1939 года.

*(Працяг на 5 стр.)*

ЭКОНОМИКА

Владимир КУЛАЖЕНКО,
доктор экономических наук, профессор

# ПЕРЕХОД ГИПЕРИНФЛЯЦИИ В 2000 ГОД ОБЕСПЕЧЕН

С календаря 1999 года отрываются последние листки. Можно подводить уже не предварительные, а окончательные итоги хозяйственного года, его экономические и социальные результаты. Уже к началу зимы стало ясно, что хозяйственный год провален в сельском хозяйстве. В строительстве, в решении социальных проблем также большие минусы в сравнении с соответствующим периодом прошлого года. Только в промышленности обеспечен рост на несколько процентов. Но этот рост является чисто условным, ибо увеличилось число убыточных предприятий и почти на 2 процента снизилась средняя рентабельность промышленности в январе-ноябре. А главное — прирост производства не сопровождался ростом реализации произведенной продукции. Наоборот, происходило накопление продукции на складах. Оно достигло суммы 130 трлн. рублей. Рост производства на склад — хуже спада, напрасно затрачено дефицитное сырье и дорогой труд.

Однако есть общий оценочный показатель состояния экономики, характеризующий как производство, так и потребление. Это инфляция. С первых месяцев уходящего года она приняла галопирующий характер и превзошла темпы предыдущего года, когда достигла уровня 291 процент. В нынешнем году инфляция вышла на рубеж свыше 300 процентов. Конечно, при таких темпах инфляции трудно говорить о равновесии экономики, тем более ее сбалансированности и решении социальных вопросов. Но с завершением года это как бы отходит, пережито. А что завтра, как поведет себя инфляция в наступающем году? Последние события показывают, что вопрос о преодолении инфляции власти не ставят, ибо планируют ее перенос на будущий год. Так, в начале декабря агентство "Интерфакс" распространило информацию, что правительство Республики Беларусь планирует повысить среднемесячную заработную плату рабочих, служащих и колхозников в течение 2000 года в 2,4 раза, до 42830 деноминированных рублей. При этом рост реальной заработной платы предусматривается только на 103 процента. Значит, цены будут более чем в два раза опережать повышение номинальной заработной платы. Такая же пропорция сохранится между ростом цен и пенсий. Средства массовой информации пестрят сообщениями о том, что в декабре повысилась плата за жилье, телефон, транспорт и другие услуги. Дорожает продовольствие. Значит, в январе этого года еще до введения новой повышенной заработной платы работающие и пенсионеры ощутят прессинг инфляции.

Возникает вопрос, что же усиливает инфляцию и делает ее перманентной?

Причина первая. Правительство так и не ввело либерализацию цен и валютных отношений. Причина преимущественно субъективная: нежелание. Но есть и объективная — в стране не было рыночных отношений, а без них либерализация не может привести к росту производства, а только к росту цен, т.е. инфляции. Может ли администрация пойти на такой шаг сегодня? К сожалению, не может, ибо, во-первых, в стране заморожена приватизация и чтобы оживить ее, необходимы воля и время, которых нет. Время, когда либерализация была бы воспринята (первые годы президентства А.Лукашенко), упущено. Теперь либерализация резко снизила бы жизненный уровень населения, и без того доведенного до крайности, и могла бы стать крахом режима.

Причина вторая. Не была проведена аграрная реформа, ставка сделана на сохранение изжившей себя колхозно-совхозной системы. Эта система не выдержала критики времени ни в одной стране мира, ибо с самого начала базировалась на ошибочных принципах: была допущена экспроприация трудовой земельной собственности крестьян. Теперь стало очевидным, что землю крестьянам надо возвратить, иначе неизбежен вечный дефицит продовольствия. Деревня деградирует, крестьяне люмпенизируются. Распустили колхозы в Литве, и сегодня там нет проблем с продовольствием. Северо-западные соседи даже предлагают Беларуси зерно и мясомолочные продукты, мол, у вас не хватает, купите у нас. В печати появились сообщения о том, что было бы неплохо, если бы Польша выдала Беларуси зерновой кредит в размере 300 тыс. тонн зерна. А ведь земли в Польше не лучше, чем у нас. Только там нет колхозов и совхозов. Правда, в последнее время А.Лукашенко и его окружение, видимо, поняли свои ошибки в аграрной политике и намерены эту политику скорректировать. Однако дела в сельском хозяйстве настолько плохи, что для исправления их не хватит всего бюджета государства.

Причина третья. А.Лукашенко считает себя экономистом, о чем часто напоминает электорату. Однако, судя по характеру распределительных отношений в стране, признать это трудно. Ведь не случайно реальная зарплата упала до 35 долларов в месяц, а у учителей и медиков — еще ниже. Дело в том, что на плечи налогоплательщиков администрация посадила свыше 300 тысяч человек — военных и милиционеров вместе с сотрудниками КГБ (свыше 200 тыс. человек), плюс свыше 100 тыс. человек томятся в тюрьмах и изоляторах предварительного содержания. Как же не быть инфляции в стране, в которой сотни тысяч людей не производят, а только потребляют. Разве экономист А.Лукашенко не знает, что это не под силу нашей обессиленной стране?! Ведь Япония, Германия и другие страны во время выхода из кризиса расходы на содержание армии свели к минимуму. А что делаем мы?

Причина четвертая — в том, что в стране ведется постоянная борьба с предпринимателями и "челноками". С экономической точки зрения это понять нельзя. Ликвидируются рабочие места при огромной незанятости и сокращается поступление валюты в страну. Ведь сегодня на предприятиях чисто административно содержатся сотни тысяч человек излишней рабочей силы, что стимулирует инфляцию предложения. При переходе к рынку лишние люди на заводах и фабриках потеряют условную занятость, и уже сегодня надо заботиться о создании новых рабочих мест, а не рассчитывать на расселение незанятых людей на просторах России. Это расселение, к сожалению, происходит и сейчас. Молодые и наиболее квалифицированные специалисты уезжают на Запад, а если не повезет, то и на Восток. Для преодоления кризиса и ослабления инфляции необходимо деятельность предпринимательского сектора не ограничивать, а, по примеру других стран, направлять в общеэкономическое русло страны.

Причина пятая (по счету, но не важности). Игнорирование национального возрождения. Пример Литвы, Латвии, Эстонии, Украины свидетельствует о том, что именно на волне национального возрождения они восстанавливают свое хозяйство и стремительно идут вперед. Чтобы ни говорили о славянском единстве, без национального возрождения нельзя поднять экономику, преодолеть перманентную инфляцию.

Эстафета инфляции из года в год, в том числе и переход ее с 1999-го в 2000 год, обусловлена и административной денежно-кредитной политикой. Финансирование и кредитование сельского хозяйства и жилищного строительства съедает все денежные ресурсы государства. Надо прекращать или хотя бы резко сократить кредитование, которое превращается по своему содержанию в прямое финансирование. Чувствуя необходимость таких действий, Национальный банк запланировал в 2000 году выдачу льготных кредитов на программу "Жилье" на 40-60 трлн. рублей плюс 20 триллионов — в четвертом квартале уходящего года. Может ли Национальный банк добиться такого сокращения? Весьма сомнительно, ибо к началу IV квартала "незавершенка" в жилищном строительстве достигла небывалых объемов — 2,7 млн. квадратных метров. Чтобы достроить это жилье, надо дополнительно выдать 360 трлн. льготных кредитов. Возникает дилемма — выделить кредиты и достроить или заморозить уже вложенные средства?

В этих условиях трудно приостановить печатный станок. Эмиссия будет продолжаться. Это же относится и к сельскому хозяйству. В этом году колхозно-совхозная система без видимых результатов поглотила 60 трлн. рублей кредитов и финансовых ресурсов бюджета. Нет оснований считать, что в будущем году будет выделено меньше. Так что пища для инфляции будет хорошая.

Льет воду на мельницу инфляции и валютная политика Национального банка. В течение последних двух лет несколько раз назывались сроки установления единого валютного курса рубля. Но всякий раз эта процедура переносилась. На этот раз ожидаемая либерализация планируется на конец будущего года. Следовательно, манипуляции вокруг множественности валютных курсов рубля, в том числе и со стороны государства, будут поддерживать инфляционный процесс в негативном режиме.

Таким образом, анализ показывает, что переход гиперинфляции в 2000 год обеспечен.

# ВСЕ МУЖЬЯ — ВАМПИРЫ?!

Пятьдесят процентов населения Земли, как считают специалисты, хандрят. Явление это не столь безобидно: оно может послужить началом психического заболевания. Одной из самых распространенных причин возникновения депрессивных состояний специалисты считают давление государства на личность, которое проявляется не только в социальных неурядицах. Нервничают не всегда нищие и во всем зависимые. Многих активных граждан выводит из себя, например, невозможность реализовать себя. Но все же дестабилизирующие внешние факторы над нами не властны, если... силен дух. Его же сила во многом зависит от ближайшего окружения – семьи. К этому выводу пришла минский психолог-биопсихотерапевт Алевтина Воронкова.



***— Говорят, что муж всегда вампирит и забирает у жены энергию. Наверное, потому женщины и стареют раньше?***

— В человеке находится настоящий океан энергии. Три четверти энергетических запасов мы тратим на эмоции и только четверть – на рациональные отношения. Любящие супруги продлевают другу другу жизнь, делясь энергией. Правда, мужчины – народ прижимистый. Они возвращают едва ли половину от полученного у жен. Вот откуда и пошло мнение о вампирящих мужьях. На самом деле, отдают они полной мерой. Просто она меньше женской. При хорошем муже женщина получает необходимую ей половую стимуляцию и дольше существует на протяжении жизни как женщина. А старится раньше тот, кто форсирует жизнь.

***— Что удерживает рядом супругов, проживших долгую жизнь друг с другом?***

— Давайте назовем это внутрисемейным магнитом. Каждый из супругов видит в партнере родителя, заботящегося о нем. Во-вторых – партнера для игр: всего, что угодно, но в чем участвуют оба супруга. В-третьих – ребенка, которого надо охранять, жалеть, кормить, обслуживать. Все идет прекрасно, пока сохранены все три позиции с обеих сторон. Стоит одному из супругов что-то упустить – образуется вакуум. Пустующее место занимает третий, который в скором времени может оказаться совсем не лишним. Ко мне часто приходят на прием покинутые женщины: "Я всю жизнь ухаживала за ним, как за ребенком: кормила, обстирывала, оберегала от житейских трудностей. А он ушел к другой". "Милая, – думаю я, – да ты так увлеклась ролью супермамаши, что напрочь забыла о себе самой!". Иногда махать кулаками уже поздно. Драка за мужчину состоялась. И в ней победила конкурентка.

***— Все эти легенды о том, как удачно вы подсказываете стоит или нет выходить замуж, как приворожить жениха и "отбить" у любовницы мужа — это правда?***

— Я только помогаю людям прислушаться к интуиции, снабжаю их информацией. Что касается выбора суженого, то подсознательно каждый из нас "примеряет" партнера противоположного пола на себя. Если он ощущает, что с этим партнером можно продолжать род, – возникает сексуальная симпатия в чистом виде. Если партнер не способен к продолжению рода, то к нему испытывается безразличие. Если вообще бесплоден, возникает чувство антипатии. В жизни выбор партнера для продолжения рода не так уж и широк – всего из одной трети. Но эта подсознательная оценка может быть скорректирована некой выгодой, которая перевесит подсознательное безразличие и даже антипатию и спровоцирует неудачный брак. А выступить в роли энергетической свахи для себя может каждый. Нужно рассредоточиться и слушать свое сердце. Если в момент признания в любви девушка ощущает холодок в груди, счастья с этим человеком у нее не будет. Сердце должно отвечать теплом.

**Марина ЗАГОРСКАЯ
"БДГ"**

# Я БОЮСЬ ЭТИХ ХОРОШИХ МУЖЧИН ИЛИ ПОЧЕМУ Я НЕ ЗАМУЖЕМ

**(исповедь старой девы)**

Говорят, что браки заключаются на небесах. Но как найти достойного партнера для предоставления его небесной канцелярии?

Не так давно встретила я свою давнишнюю подругу Ольгу. Не виделись мы с ней года три. После первых "ахов" и "охов" посыпались вопросы: "Как ты? Как семья? Как дети?". Я, конечно же, не осталась в долгу и в свою очередь спросила:

– Ну, а как у тебя? Не нашла еще свою половину?

Ольга как-то грустно на меня посмотрела. Мы сели на скамейку в сквере, и она начала говорить, вернее год за годом описывать свою жизнь.

"Ты еще не замужем? Пора, пора", – все чаще и чаще слышу я в последнее время. И, хотя не уродина, и не мужененавистница, но замуж как-то уже не спешу, – начала Ольга. – Несколько пережитых мною историй совершенно отбивают интерес к замужеству. Вот один небольшой пример из жизни.

...Автобус подъезжает к остановке, мне выходить. Как обычно, перед дверью толпятся люди. Я с трудом выхожу из салона, возможно, нечаянно кого-то задев. Вдруг начинаю буквально оседать в сугроб, терять равновесие от толчка в спину. Оглядываюсь и вижу беспредельно счастливую рожу мужчины: "Вот тебе, стерва", – изрекает он и с видом исполненного долга удаляется. Я, неверное, толкнула его при выходе, и он не поленился пробежать за мной метров тридцать, чтобы мастерски рубануть меня в спину. В этом вся суть нашего среднего мужчины.

Конечно, я понимаю, – продолжала Ольга, – что одинокая женщина в возрасте от тридцати испокон веку была мишенью для насмешек – старая дева. Я и сама много думаю, может я действительно ненормальная, когда все говорят об очередном кандидате – он хороший, а я этого не вижу, то пришла к выводу, что не мы, "старые девы", ненормальные, а мужчины наши измельчали, и способны только требовать и потреблять.

– И что ты теперь, ни с кем не встречаешься? – спросила я подругу.

– Да нет, – ответила Ольга. – Последнее знакомство произошло у меня недавно. В первые же минуты нашей встречи спутник огласил список своих требований. Загибая пальцы на руках, он сказал, что ему нужна хорошая хозяйка, которая умеет и шить, и вязать, и готовить. Все это я могу и люблю делать. Ты же знаешь, как я люблю принимать гостей. Но я возьми и поинтересуйся, может ли он обеспечить меня всем необходимым: тканью, продуктами и прочим. В ответ... удивленный взгляд.

Но я ведь тоже не маг и не волшебница: из воздуха шить, вязать и готовить не умею. Зачем я тебе все это говорю? Да вот выплакаться захотелось, встретила тебя, излила душу, и полегчало. Ведь мужикам с нами, "старыми девами", церемониться не престало. Хотя мы тоже хотим тепла, заботы, элементарного уважения, простого семейного уюта. Тем не менее, только и слышишь: "Сколько ты будешь принца ждать?". Господи! Да я давно никого уже не жду, я не надеюсь иметь семью. Я уже боюсь "хороших" мужчин. Я устала от их "хорошего" хамства и требований. Но жизнь на этом не кончается, надо жить так, как судьба распорядилась.

Так окончила свою исповедь Ольга, а я сидела и не знала, что в таких случаях можно сказать и посоветовать, хотя в таких ситуациях совет – последнее дело. Спорить о том, что не все мужчины так уж плохи, тоже не хотелось. Ведь судьба сыграла с моей милой и доброй подружкой злую шутку, послав ей лишь мужчин потребителей и эгоистов.

**Записала Светлана БОЛТИК**

СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ● СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ● СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ● СЛОНІМШЧЫНА Ў 1999 ГОДЗЕ ●

## СТЫХІЯ ГОДА



У пачатку снежня над Слонімшчынай пранёсся ўраганны вецер, ад якога пацярпела 15 калгасаў і саўгасаў раёна. Без святла на нейкі час засталіся 12 населеных пунктаў, 4 фермы. У калгасе "Прагрэс" рухнула сенасховішча, а ў вёсцы Сакалова вецер сарваў дах зерескладa. Страты, нанесеныя стыхіяй гораду, былі нязначнымі.

## СТРАХ ГОДА

Сёлета ў нашым горадзе адбылася серыя жудасных забойстваў і знікненняў людзей. 6 траўня ў слонімскім гарадскім парку знайшлі забітую 17-гадовую Вольгу Немчанкаву. А 30 чэрвеня каля Шчары была знойдзена забітая 26-гадовая Вольга Герасімчык. 16 лістапада загінула 18-гадовая Святлана Дубовік. 9 траўня бясследна зніклі маладыя слонімцы Віталь Хамякоў і Анатоль Фідрык.

## ПОШУКІ ГОДА

На пачатку лета разгарэўся скандал, звязаны з былым дырэктарам слонімскага вінзавода Жанам Сікорскім. Кантралюючыя органы выявілі, што Сікорскі прысвоіў вялікія сумы дзяржаўных грошай (спачатку называлася лічба 806,4 мільёнаў рублёў). Супраць былога дырэктара і яшчэ некаторых асоб абласной пракуратурай была ўзбуджана крымінальная справа. На пачатку ліпеня была знята з вытворчасці гарэлка "Сікорскі". Сам Жан Сікорскі летам знаходзіўся на лячэнні ў адной з мінскіх клінік, а пасля знік... Цяпер аб'яўлены рэспубліканскі вышук Жана Феліксавіча, але знайсці яго праваахоўныя органы не могуць. Кажуць, што Сікорскага бачылі ў Польшчы.




## АПІСАННЕ ГОДА



У канцы лістапада слонімскія рэлігійныя аб'яднанні атрымалі з гарвыканкама ліст за подпісам намесніка старшыні выканаўчага камітэта Анатоля Бяляніна. Чыноўнік прапанаваў апісаць да 20 снежня ўсю царкоўную маёмасць і адзначыў, што "большая яе частка з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы". Вернікі былі, мякка кажучы, здзіўлены, а Бялянін спасылаўся на загад з Гродна.

## "АРЫШТ" ГОДА

У лістападзе пажарная служба апячатала РДК і драмтэатр. Прычынай гэтага сталі парушэнні правіл пажарнай бяспекі. Культура заставалася пад замком да снежня...

## ПАДАРУНАК ГОДА

Напярэдадні Новага года накладам у 299 паасобнікаў выйшаў у свет першы нумар інфармацыйнага бюлетэня "Слонимские ведомости". Новае слонімскае выданне з'яўляецца органам гарадскіх улад. Нумар выйшаў на 12 старонках фармата А4 і складаецца з перадрукоўкі рашэнняў гарвыканкама і гарсавета, з інфармацыі пра графік прыёму выбаршчыкаў дэпутатамі, дзвюх "спартыўных навін" і "думак вялікіх". Але найбольшую ўвагу прыцягнуў артыкул рэдактара бюлетэня, старшыні гарсавета Войцеха Угрыновіча "Наш горад". Справа ў тым, што гэты тэкст, у асноўным, паўтарае артыкул "Слонім", які быў змешчаны ў аднайменнай кніжцы, якая выйшла ў 1997 годзе ў нашым горадзе. І здымкі, якія трапілі на першую старонку "Слонимских ведомостей", узяты з той кніжкі (трэба сказаць, не самыя лепшыя).


Слонимские ВЕДОМОСТИ
НАШ ГОРОД

## ДАСЛЕДАВАННЕ ГОДА

Летам навукоўцы Інстытута эксперыментальнай біялогіі Нацыянальнай акадэміі навук абследавалі старажытную ліпу, якая расце ў двары Жыровіцкага манастыра. Спецыялісты высветлілі, што жыццяздольнасць дрэва здавальняючая. Быў устаноўлены і ўзрост ліпы – 200 гадоў. Таму ранейшыя сцвярджэнні, што да пасадкі дрэва мае дачыненне рускі імператар Пётр І, аказаліся цалкам беспадстаўнымі.

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**

# КАК ПРОЖИТЬ 100 ЛЕТ?



**Говоря словами Владимира Маяковского, "лет до ста расти нам без старости". Но как дожить до почтенного возраста? Вот что рекомендуют шведские специалисты.**

● Чаще общайтесь. Исследования показывают, что люди меньше болеют, когда чаще встречаются с друзьями. Уровень заболеваний у общительных людей вдвое меньше, чем у нелюдимых.

● Смейтесь чаще. Смех усиливает иммунную систему, сжигает больше калорий и улучшает общее самочувствие.

● Разводите цветы. Вы улучшите воздух в вашем жилище, ведь он больше насыщается кислородом.

● Избегайте похмелья. Пить следует умеренно, никогда – после полуночи. Не запивайте крепкие напитки водой.

● Не сидите истуканом перед телевизором. Когда смотрите телевизор, постарайтесь делать какие-нибудь движения. Не кричите, когда что-то хотите сказать человеку, находящемуся в другой комнате, лучше подойдите к нему. Медики утверждают, что шесть минут ходьбы по лестнице в день продлевают жизнь на два года.

● Поменьше стрессов. В этом вам помогут три несложных правила. Первое: дышите нормально. Стресс заставляет человека сдерживать дыхание, а это, в свою очередь, усиливает стресс. Второе: чаще выпрямляйтесь. Стресс ухудшает осанку, что ведет к скованности и напряженности. Третье: контролируйте свои действия. Даже если все идет безнадежно плохо, только вы сами можете изменить ситуацию к лучшему.

● Перед тем как лечь спать, хорошо сделать 50-100 приседаний (в зависимости от степени тренированности) и 20-40 раз помахать руками.

● Не вскакивайте с постели. За ночь между позвонками накапливается жидкость, поэтому, проснувшись, нужно несколько раз потянуться, чтобы дать позвоночнику время "проснуться".

● Мойте руки. Нам приходится вращаться среди простуженных людей, браться руками за дверные ручки, телефонные трубки и т.д., поэтому руки следует мыть чаще. И обязательно перед приготовлением пищи и перед едой.

● Не пейте жирное молоко. Больше делайте салатов, пейте молоко меньшей жирности, готовьте блюда на оливковом масле. Стакан воды перед едой уменьшает аппетит.

● Чеснок – каждый день. Половинка головки чеснока в день сокращает риск сердечных заболеваний на 18%.

● Больше витамина Е. У тех, кто употребляет пищу с большим содержанием этого витамина, реже случаются сердечные заболевания.

● Убирайтесь на кухне. После еды сразу не садитесь и не ложитесь отдыхать. Полезно минут 15 убраться на кухне, это даст вам сокращение примерно 40 калорий.

● Примечание. Не стремитесь сломя голову выполнять сразу все советы. Выберете один и следуйте ему в течение месяца. Затем прибавьте еще один. И так далее. Через год вы обязательно почувствуете обновление.

**По материалам прессы**

## СТОИТ ЛИ ХУДЕТЬ?

Девушки, желающие любой ценой сбросить лишний вес, в конечном итоге рискуют потолстеть еще больше или даже заболеть ожирением, считают специалисты из Американской ассоциации психологии.

В исследовании принимали участие 692 девушки в подростковом возрасте, часть из которых пыталась резко похудеть, используя жесткую диету, слабительные и другие препараты или вызывая у себя рвоту.

По мнению автора исследования профессора Техасского университета в Остине Эрика Стайса, такие девушки больше рискуют затем набрать вес, чем те, которые не предпринимают столь радикальных попыток, чтобы похудеть. В исследовании приводится обескураживающий вывод: даже девушки, которые, чтобы похудеть, занимаются спортом, в конечном итоге также склонны к появлению излишнего веса. Эрик Стайс считает, что это происходит потому, что физические упражнения вызывают укрепление костной и мышечной массы.

Ученые отмечают: нередко, стараясь похудеть, люди не стремятся "уменьшить количество потребляемых калорий или увеличить физическую нагрузку, а ограничиваются терапевтическими мерами". Кроме того, похудеть обычно пытаются девушки, которые изначально предрасположены к излишнему весу.

**Интерфакс**

НОВОСТИ

## Гиппократ был прав!

**Древний способ определения пола будущего ребенка по внешнему виду его матери имеет под собой некоторые основания, считают шведские врачи.**

Еще Гиппократ говорил, что у матери, носящей девочку, лицо бледно, а у будущей матери мальчика цвет кожи здоровый. Ученые из Королевского института в Стокгольме подтвердили, что женщины, носящие в чреве девочек, чувствуют себя хуже, чем те, кому предстоит родить мальчика. Специалисты обследовали женщин, которые в первые три месяца беременности испытывали приступы тошноты, и обнаружили, что 56 процентов из них носили под сердцем девочек, а 44 процента - мальчиков. В среднем же это соотношение составляет 49 и 51 процент. Доктор Йохан Асклинг, руководивший исследованием, считает, что полученные им результаты представляют определенный научный интерес, но пользоваться им для определения пола будущего ребенка - это почти все равно, что угадывать с помощью подбрасывания монеты.

## Ядовитое удовольствие

**Женщинам труднее, чем мужчинам, бросить курить, поскольку они получают больше удовольствия от употребления табака, считают американские ученые.**

"Полученные данные свидетельствуют, что женщины испытывают гораздо большее облегчение, когда закуривают сигарету после длительного воздержания", - сказал автор исследования профессор университета Вирджинии Томас Айсенберг. По его мнению, трудность при отказе от пагубной привычки заключается еще и в том, что существующие методики не учитывают облегчения, которое испытывает курильщик, когда закуривает сигарету после долгого воздержания.

Симптомами сигаретной "ломки" являются возбуждение и неспособность сосредоточиться. В ходе исследования ученые оценивали степень облегчения, испытываемую курильщиками обоих полов, которые закурили после длительного воздержания. Выяснилось, что после долгожданной затяжки женщины меньше хотят закурить еще одну сигарету и быстрее успокаиваются, восстанавливая способность концентрироваться, чем мужчины.

Ученые заметили: женщины делают более маленькие и короткие затяжки, чем мужчины, поэтому они в меньшей степени подвержены физиологической зависимости от никотина. Как считает профессор Айсенберг, необходимо разрабатывать способы отвыкания от этой привычки, ориентированные на психологические и другие факторы.

**Интерфакс**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# НЕ ЎСЕ СЛЯДЫ ЗАВЕЯ ЗАМЯТАЕ



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Вакол райцэнтра была аб'зная дарога, і Рыгор Сёмачка ўзрадаваўся: не трэба стаяць пад светлафорамі ды і верагоднасць сустрэчы з аўтаінспектарамі меньшая. Камаз мякка плыў па прыцярушанай мокрым снегам дарозе, распырскваючы па баках брудную кашу.

Вечарэла. Рыгор уключыў фары і ў святле іх убачыў на абочыне невялічкую фігурку хлопчыка са школьным партфелем. Ён заўзята махаў рукой. Камаз паціху падруляваў да абочыны, спыніўся. Але ў кабіну ніхто не залазіў. Рыгор падсунуўся да дзверцы і адчыніў яе. Хлопчык стаяў унізе.

— Ну, чаму ж не залазіш? — спытаў.

— Цяпер залезу, а то дзвярэй не даставаў адчыніць, — адказаў той.

Паволі ўскараскаўшыся ў кабіну, ён скінуў партфель.

— Паехалі, — не то загадаў, не то папрасіў. І ад гэтай дзіцячай сур'ёзнасці Рыгору раптам стала смешна.

— Ты са школы, відаць? — пацікавіўся.

— Ну, — згодна кіўнуў хлопчык.

— А чаму так позна? Дацямна вас там вучаць?

— Не, урокі даўнавата закончыліся, але ў нас рэпетыцыя была. Заўтра навагодні ранішнік.

За дарожнымі клопатамі, а Рыгор Сёмачка ехаў ужо больш сутак, ён нояк і забыўся, што праз два дні наступіць Новы год. Ды і прыгадаўшы, не вельмі ўзрадаваўся: падумаеш, падзея. Жыў Рыгор адзін, дзікавата. Блізкіх сяброў не меў, за чаркай не ганяўся. Дык і святы тыя яму былі так сабе. Радаваўся аднаму, што яшчэ на пенсію не адправілі, хоць гады ўжо выйшлі.

— Далёка табе ехаць? — схамянуўшыся ад сваіх думак, спытаў у малога.

— Восем кіламетраў, а там яшчэ два пешшу праз лясок.

— І не баішся? — з павагай зірнуў на хлопчыка.

— Мяне бабуля сустрэне. Недзе ўжо хвалюецца на прыпынку, бо я крышку на аўтобус спазніўся. Я звычайна аўтобусам езджу. А калі і татка на сваёй машыне сустракае аж ля самай школы.

— А што, татка ў цябе шафёр?

— Не, настаўнік. А мама фельчарам працуе на ФАПе. Бабуля на пенсіі, а я вучуся ў трэцім класе. Яшчэ ў мяне ёсць сястрычка Люда. Ёй чатыры гадкі, — выпаліў на адным дыханні і прыязна ўсміхнуўся. Рыгор не ведаў чаму, але раптам у яго стала хораша на душы.

— А завуць цябе як, не сказаў, — напомніў ён хлопчыку.

— Васілём, — па-даросламу адказаў той.

— А дзед жа ў цябе ёсць? Пра дзеда нешта не ўспомніў.

— Другая баба з дзедам жывуць у суседнім раёне. Гэта таты бацькі. А ў мамі бацькі не было.

— Як гэта не было? — не паверыў Рыгор. — Павінен быць.

— Ну, некалі быў, а потым пайшоў сабакам сена касіць, — яўна пераказваючы нечыя словы, паведаміў Васілёк.

— Разумееце, кінуў ён сям'ю, калі мая мама была яшчэ маленькай. Бабуля казала, што знёсся з маладой дзеўкай і паехаў з ёй недзе далёка. З таго часу аб ім ні слыху, ні дыху. Бабуля не любіць аб гэтым успамінаць, дык больш я нічога і не ведаю, — шчыра прызнаўся ён.

Снег мацнеў. За акном насустрач машыне ляцелі вялікія белыя камякі. Нават неверагодным здавалася, што снег можа быць такі буйны. Хлопчык сядзеў, адкінуўшыся на спінку, і пільна глядзеў на дарогу. Рыгор, заняты справай, не мог добра разглядзець яго, але для сябе адзначыў, што Васілёк вельмі прыгожы. Было горача, ён зняў шапачку, і цёмныя кучаравыя валасы рассыпаліся па лобе. Чорныя бровы былі як намаляваны. Яны прыдавалі нейкае дзявочае харастве міламу кругламу тварыку. Раптам Васілёк схамянуўся, адзеў шапачку, узяў у рукі партфель.

— Во за гэтым паваротам будзе аўтобусны прыпынак. Там і спыніцеся. Добра?

— Добра, — сгадзіўся Рыгор.

Як толькі мінулі паварот, святло фар выхапіла з цемры невысокую постаць жанчыны, што стаяла на аўтобусным прыпынку.

— О, бабулька мая! — радасна сказаў Васілёк. — Замёрзла, мусіць, і перахвалявалася.

У голасе хлопчыка было столькі пяшчоты, што Рыгора міжволі апанавала зайздрасць: ёсць жа людзі, якіх так любяць. Бач ты "бабулька мая". А яго ніхто ніколі пяшчотна не назаве. І памрэ, дык ніхто не заплача. А хутка ўжо, хутка збірацца трэба ў далёкую дарогу. І сэрца часта баліць, і ціск падымаецца...

А хлопчык між тым выкуліўся з машыны, пабег да сваёй бабулькі і павіснуў у яе на шыі. Яна пацалавала яго, засмяялася, і, павярнуўшыся тварам да машыны, пачала завязваць малому шапачку. Па гэтай ласкавай, нейкай нясмелай усмешцы, па рухах ён пазнаў сваю першую жонку Кацярыну, тую бялявую худзенькую Кацю, якой некалі так подла здрадзіў, падмануў, пакінуўшы з малым дзіцём.

Ехаць далей не мог. Слабасць свінцом наліла цела, сціснула сэрца.

Кацярына з унукам ужо рушылі да ляска, але раптам прыпынілі крок, азірнуліся, потым малы павярнуўся і пабег назад.

— Дзядуля, чаму вы не едзеце? Можа што трэба? — задраўшы ўгору галоўку, спытаў ён, бо дзверы кабіны яшчэ былі адчынены.

— Нічога не трэба, унучак, дзякую. Я адпачну трохі. Ехаць яшчэ далёка.

Хлопчык памахаў на развітанне рукой, і праз якую хвіліну яны з Кацярынай схаваліся за дзіравай посцілкай завеі.

— Вось яна, расплата, — прашапталі знямелыя губы, калі да Рыгора паволі пачалі вяртацца сілы і развага. — Вось калі і дзе жыццё прад'явіла рахунак...

Ён вярнуўся думкамі ў той далёкі восеньскі дзень, калі, як нашкодзіўшы кот, збег з дому, папярэдне дамовіўшыся з маладым калгасным бухгалтарам Нінай. Ніна была незамужняя, маладзейшая за яго амаль на дзесяць гадоў. А ён... жонку і дачушку памяняў... ні на што памяняў. З Нінай жыццё не склалася. Праз два гады разышліся, так і не прыжыўшы дзяцей. І тады ён кінуўся шукаць Кацярыну. Меў намер поўзаць перад ёй на каленях, каб даравала. Але яна высхала з таго месца, дзе жыла, а куды — ніхто не ведаў.

— Далёка ж яна заехала, далёка... Відаць, адчувала, што буду некалі шукаць, то ўцякла, бы ад нейкай чумы. Нават на аліменты не падавала. Сама дачушку выгадавала. І ўнукаў. А я адзін, як той быльнёг, што тырчыць з-пад снегу.

Рыгор завёў рухавік, бо ўжо адчуваў, што крыху супакоіўся і што можа ехаць далей. Яшчэ раз глянуў на тую сцяжынку, па якой пайшлі Кацярына з Васільком. Яму раптам захацелася крычаць на ўвесь свет ад болю, адзіноты, ад крыўды на самога сабе. А іхнія сляды ўжо зацерусіў снег. Як знак для яго, што мінулага не вернеш.

— Можа трэба было спыніць, пагутарыць, — балюча раздзіраў сэрца голас мужчыны-эгаіста.

— Пра што? — кпіў з яго голас сумлення. — Патрэбны ты ім. У іх сваё шчасце, сваё жыццё, дзе табе няма месца.

...Машына кранулася і набрала хуткасць. Услед за ёй рушыліся вялікія рухавыя клубы снегу, нібы хочучы затрымаць, павярнуць назад.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**




**Ірына ВАСІЛЕЎКА, рэдактар раённай газеты "Праца" (Зэльва):**

1. 1999 год для мяне быў вельмі добрым, бо ўвесь час побач са мной былі толькі добрыя і шчырыя людзі.

2. Ад 2000 года чакаю, што ён будзе не горшы за мінулы.

**Генадзь ВІЛЬКІЦКІ, загадчык аддзела па фізкультуры і спорту гарвыканкама:**

1. Год запомніўся найперш добрымі вынікамі нашых спартсменаў. Маем аднаго майстра спорту міжнароднага класа і чатырох майстроў спорту. Футбалісты слонімскага "Камунальніка" выйшлі ў вышэйшую лігу. Радуе, што спартыўных спаборніцтваў у горадзе стала больш, і гарадскія ўлады па-ранейшаму ўдзяляюць спорту вялікую ўвагу. А ў асабістым жыцці... Мая ўнучка паступіла ў піцерскі эканамічны інстытут, а зяць атрымаў званне палкоўніка.

2. Хацелася б, каб у будучым годзе нашы спартсмены па-ранейшаму нас радавалі сваімі спартыўнымі вынікамі. Каб заняткі спортам занялі больш значнае месца ў жыцці людзей, і каб яны мелі магчымасць купіць неабходнае адзенне і абутак. Каб у нашым горадзе палепшылася матэрыяльная база для заняткаў спортам. Спадзяюся, што нарэшце пачне працаваць у Слоніме лёгкаатлетычны манеж.

**Іван МІСКО, скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат дзяржаўнай прэміі:**

1. Я спадзяваўся, што ў 1999 годзе канчаткова вырашыцца лёс помніка Льву Сапегу, над якім я працую і які меркавалася паставіць у Слоніме на плошчы Леніна. На жаль, фінансавання праекта няма, а гэта тармозіць працу. Можа варта было б гарадскім уладам адкрыць банкаўскі рахунак для збору сродкаў на вырабленне і ўстаноўку помніка?.. Сёлета пачаў работу над скульптурным партрэтам паэта Алега Лойкі.



2. Якія планы на будучы год? Наогул, 2000 год для мяне вельмі важны. У прыватнасці, планую правесці выставу ў Зорным гарадку. Адмыслова падрыхтаваў для выставы работу "21 стагоддзе", але пакуль не буду гаварыць, што гэта такое. Хай пакуль работа застанецца сакрэтам. Касмічная тэматыка заўсёды мяне вабіла. Яна была і, напэўна, застанецца да канца жыцця асноўнай маёй работай. Космас — маё жыццё.

# ПОСТУПАЙТЕ ТАК, КАК В ЛУЧШИХ ДОМАХ ФИЛАДЕЛЬФИИ

### Праздничное застолье...



С глубокой древности скрашивает оно жизнь людей - не только богатых, но и бедных. Скромная вечеринка в семейном кругу, дружеская пирушка, свадьба и юбилей, званый обед и ужин, банкет, фуршет, церковная трапеза, десятки самых различных праздников существуют вовсе не для того, чтобы хорошо выпить, поесть, попеть, поплясать, поговорить, хотя и это немаловажно.

Главное, конечно же, в другом - праздничные застолья собирают нас, таких разных, вместе, вынуждают быть нарядными, вежливыми, остроумными, учат щедрости и доброте, любви и уважению друг к другу.

Знание правил поведения за столом особенно важно. Этот раздел этикета один из самых сложных вследствие некоторых особенностей.

### Как сидеть за столом



Садиться за стол нужно так, чтобы вам было удобно есть и пить: не придвигаться к нему вплотную, но и не отдаляться от него так, что потом нужно будет наклоняться к блюдам. Нельзя сидеть "развалившись", - откинувшись на спинку стула. Если рядом с вами садится женщина, вам следует помочь ей сесть - выдвинуть стул (приподнимая его, а не двигая по полу), дождаться, пока она сядет (а она может сесть лишь после того, как сядет хозяйка дома): затем надо подождать пока сядут все женщины, "главный гость" (по правую руку хозяйки), и уж только тогда садиться самому.

### Как что есть

При еде первого блюда (суп, бульон, консоме) не следует набирать полную ложку, чтобы не расплескивать с нее. Жидкость сливать в рот тихо, не "схлебывать". Нельзя остужать первое блюда, дуя на него - если горячо, подождите пока остынет.

Иногда первое подается в чашках. Знатоки говорят, что если чашка о двух ручках, то из нее нужно пить первое, как чай или кофе. На практике приходилось наблюдать отступление от этих правил. В подобных случаях - общий совет, поступайте как ваши соседи по столу, ошибки не будет.

При еде из тарелки ее не следует наклонять, чтобы вычерпать жидкость "досуха". Хлеб берется не вилкой, а руками. От него по мере надобности отламывают небольшие кусочки. Кусать от целого ломтя считается вульгарным. Намазывать на хлеб масло, икру и пр. также нужно не на весь ломоть сразу, а на отламываемые от него кусочки. Не нужно оставлять надкусанные кусочки и катать из мякиша шарики.

Мясные блюда не разрезаются сразу, а от них постепенно отрезаются маленькие кусочки. Не следует отрезать и класть в рот большие куски. Так же поступают с блюдами из птиц, дичи (куры, утки, рябчики и др.). В кругу близких друзей допускается "обгладывать" косточки, беря их в руки. На Западе и у нас это иногда делается хозяйкой и хозяином дома для того, чтобы показать гостям, что им очень рады, считают их "своими" и просят быть "как дома".

Когда подают фрукты - не разглядывайте их, выбирая "получше": это оскорбление хозяйке дома, ибо подразумевается, что она позаботилась, чтобы гостям были поданы только отборные фрукты. Поэтому сразу берите тот или те фрукты, которые взять удобнее. Совершенно недопустимо перебирать фрукты пальцами, ощупывать их.

### Общие правила поведения

Крайне невежливо говорить за столом о ваших вкусах - что вам нравится и что не нравится, о диетических предписаниях, сделанных врачом, о влиянии на ваше здоровье той или иной пищи и т.п. О некоторых из этих вопросов допустимо в скромной форме предупредить при получении приглашения. Ваши пожелания будут учтены пригласившими.

### "На трапезу не опаздывают!"



Опоздание не должно превышать протокольно допустимого лимита - 15 минут. После получасового опоздания вы не вправе обижаться, если за стол сядут без вас или вам не предложат уже прошедшего блюда: вы нарушили "конвейер", по которому идет обслуживание стола. В силе остается правило, которому следовали еще древние римляне: "опоздавшим - кости". Да и отведенное вам место за столом может быть занято другим, и вам также нужно воспринять это без обиды, как справедливое возмездие за опоздание.

Разговор за столом следует вести с обоими соседями (соседками), не отдавая видимого предпочтения одному (одной) из них. Если вы оказались за столом рядом с незнакомыми вам людьми, можно представиться им, если это женщина или мужчина старше вас. Считается крайне невежливым рассматривать, чисты ли тарелки, стаканы и т.д., и совершенно недопустимо протирать их салфеткой или носовым платком. Если они кажутся вам (и даже являются на самом деле) недостаточно чистыми - терпите, не морщась и не показывая ни малейших признаков недовольства. Это не лишает вас возможности сделать выводы на будущее, если вы снова получите приглашение в этот дом. Такую же стоическую позицию нужно занять, если в кушании попадется что-либо несъедобное (щепочка, волос и т.п.), что случается и в "лучших домах Филадельфии". Ни в коем случае не следует показывать и малейших признаков ваших ощущений. Отодвиньте "находку" в край тарелки, прикройте гарниром и продолжайте трапезу, как ни в чем не бывало.

Выходить из-за стола можно лишь после того, как вышла хозяйка дома и все присутствующие дамы. Как только встала ваша соседка - отодвиньте от стола ее стул, пропустите ее на выход.

### Введение в логику похмелья



Наутро после хорошей выпивки свет кажется невыносимо ярким, а звук громким. Избавиться от этого на удивление легко - пусть ваш мозг возвращается в нормальное, не вызванное воздействием алкоголя, состояние постепенно. Выпейте немного. Небольшая доза алкоголя позволит нервным клеткам безболезненно пройти этот путь.

### Вода, как средство от похмелья

Это средство весьма удобно для людей с ограниченными доходами, но, к сожалению, оно не очень эффективно. Вода смочит запекшуюся глотку, увлажнит пересохший рот и начнет восстанавливать жидкостный баланс в организме. Однако она окажется бессильной тогда, когда речь идет о расширении кровеносных сосудов и удалении вредных веществ - сивушных масел, неусвоенного алкоголя, все еще находящегося в организме и т.д. Пейте сколько хотите. А чтобы процедура эта не казалась унылой, называйте воду ее синонимом - пивом Адама.

### Булшот или "бычий глоток" (коктейль, излечивающий от похмелья)

Полстакана холодного мясного бульона с солью и перцем, сок одного лимона, немного хрена, водки в меру. Вся эта жидкость хороша в стакане со льдом.

# КАК ОТМЕЧАЛИ НОВЫЙ ГОД В СТАРИНУ

Если бы древнерусский календарь до сих пор имел свою силу и у нас в Беларуси, то мы отмечали бы сейчас новый, 7507 год "от сотворения иора", и не в январе, а в сентябре.

А в Китай Новый год придет в феврале - 4696-й год по китайскому календарю. Затем Новый год отпразднуют в Индии. Там 22 марта наступит 1920 год. Чуть позже, 13 апреля, Новый год придет в Непал. Он станет 2055-м. Мусульмане встретят свой 1418-й год летом, 21 июня. Евреи новый, 5759-й год, отпраздуют 15 сентября. В Японии и Корее Новый год наступит, как и в Европе, 1 января. Только там на календаре совсем другое летоисчисление.

### Откуда пришел обычай наряжать елку?

Обычай наряжать елку тоже очень давний: ему около двух тысяч лет. Почему же люди стали украшать деревья? Уж очень велика была в древности магия дерева.



В известном Гороскопе друидов (древних кельтских жрецов, поклонявшихся лесу, деревьям) характер и судьба человека связана с "его" деревом (у каждого человека, в зависимости от даты рождения). Наши древние предки верили, что в деревьях обитают еще и духи растительности и плодородия, от которых якобы зависит урожай хлебов, фруктов и овощей. Но могущественные духи были не только добрыми, но и злыми, и нужно было их умилостивить подарками.

Ну а уж вечнозеленая ель занимала особое место среди всех деревьев. Она была священным центром, "мировым древом", символизирующим саму жизнь и новое возрождение из темноты и мрака. Именно на ней, самой большой в лесу, ежегодно, в конце декабря (когда начинался "солнечный" год) люди "развешивали разные подарки" для духов, чтобы сделать их добрее, чтобы получить богатый урожай. Вот и приносилась искупительная жертва, как бы воспроизводящая первую жертву сотворения мира.

Позднее елочки (настоящие новогодние, а не веточки ели и сосны) пришли и к нам. Случилось это лишь в 30-х годах XIX века. Итак, лет триста назад наши предки верили, что, украшая новогоднюю елку, они делают злые силы добрее. Сейчас о злых силах давно забыли (хотя они наверняка есть), но без красавицы-ёлки-всамделишной, прямо из лесу, или красивой искусственной - по-прежнему не обходится ни один новогодний праздник.

### 2000 - год Дракона

Двойственный год: или очень изматывающий или блестящий. Ожидают грандиозные победы, награды, большие праздники или поражения. Остерегайтесь пожаров. Будьте честолюбивыми и предприимчивыми, идите вперед!



Знаменитые драконы: Сальвадор Дали, Пласидо Доминго, Грэм Грин, Че Гевара, Джон Леннон, Джина Лоллобриджида, Франсуа Миттеран, Джордж Бернард Шоу, Эдуард Шеварнадзе, Ринго Стар... Годы Дракона в двадцатом веке: 1904, 1916, 1928, 1940, 1952, 1964, 1976, 1988, 2000. 2000 год будет второй раз за столетие годом металлического дракона.

Металлический дракон - это яркая личность с очень сильной волей. Он энергичен, тщеславен и не старается быть объективным в отношениях с окружающими. Не редко бывает резок и высказывает все, что думает. Если люди не соглашаются с ним или не желают сотрудничать, он не особенно расстраивается, а с радостью идет один своим путем. Обычно это человек высоких моральных качеств, уважаемый друзьями и коллегами.

Газета Слонімская
30 снежня 1999г. — 5 студзеня, 2000г. № 1 (134)

*Уладзімір ЛАБКО*

## Навагодняе пажаданне

*Што пажадаць табе, народ,
Калі прыходзіць Новы год,
Калі у нашае дзяржавы
Да нас няма ніякай справы?..
Цяпла і сонца ўсім жадаю,
Здароўя, добрага ўраджаю,
Каб мы, нарэшце, мелі права
Усім сказаць: "І мы дзяржава
З патрэбным тут аксесуарам..."
І, да нябёс узняўшы твары,
Ні перад кім спіну не гнулі,
І каб аб тым усе пачулі,
І ўжо лічыцца з намі сталі...
Каб нас у свеце паважалі.*

## Ода Зэльве

*Зэльва-Зэльва, горад-вёска,
Ракі вузкая палоска
Упрыгожвае твой твар,
Ды не рыба тут — тавар,
А жанчыны-маладзіцы,
Ад якіх наўкол ірдзіцца...
Я з адной такой спаткаўся
І навечна закахаўся.
Сінявокая, бялява,
Ходзіць важна, нібы пава,
А размову завядзе —
Красамоўней, ну нідзе,
Ні знайсці ва ўсёй акрузе.
Вось, бывае, так на лузе
Расцвіце улетку краска...
Столькі ў ёй дабра і ласкі!
Прыхінеш, мацней абдымеш —
Усю стому ураз здымеш.
Хочацца намілавацца,
У вочы любай наўглядацца.*

*Екатерина ШАТИЛО*

## Зимнее утро

*Бисером звёзды рассыпаны в небе,
Медным пятном
тускло светит луна.
Зимний морозец час от часу
крепнет,
В речке и лужах замёрзла вода.*

*Зябко. Под крышею птицы ютятся,
В будке от холода съёжился пёс.
Бедным, им некуда в холод деваться,
Трудно прожить бедолагам в мороз...*

*В небе бездонном танцуют
снежинки,
Ярко сверкая в огнях фонарей,
Кристально-прозрачны,
легки, как былинки,
И так же не вечны,
как пух тополей.*

## Рождество

*Оделось в елку Рождество,
Набросив шаль из серпантина,
Позвало всех за общий стол,
Шампанским дружно заискрило.*

*Зажглись герлянды, огоньки,
И свечи мягким светом светят.
Подарки добрые свои
Под елкой утром ищут дети.*

*Девицы, веря в волшебство,
Гадают на судьбу и милых.
Им дарит встречи Рождество
В их снах... причудливо-наивных.*




**Алег ЛОЙКА, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук:**

1. Мінулы год быў насычаны паездкамі па Еўропе, адкуль я прывозіў вершы, якія цяпер друкуюцца ў газетах і часопісах. А наогул, 1999 год для Беларусі і для мяне быў чорным годам. Таму што тое, што адбывалася ў рэспубліцы — гэта не на нашу карысць, а наадварот, ускладняюцца даляглядьі нашага народа, нашай літаратуры, культуры і эканомікі. Так што закончыўся гэты год для Беларусі і для мяне датамі, якія не радавалі сэрца.

2. Хачу, каб 2000 год быў паэтычным годам, бо чалавек ад новага года заўсёды чакае чагосьці новага і лепшага.


Малюнак Яўгена ІВАНОВА

*Ірына ВОЙТКА*

## Памяці аднакласніка

*Кароткі век, кароткі век
Маіх братоў,
маіх сяброў.
Жыві на свеце,
чалавек,
Памерці будзь
заўжды гатоў.*

*Ты не абжыў яшчэ
свой дом,
І невялікі твой сынок,
Ды ўжо паклікалі цябе:
"Пайшлі, браток..."*

*Жыцця пярэрваны
разбег...
І боль, і горыч у душы.
Жыві на свеце,
чалавек,
І жыць спяшы.*

## Існае

*Да святла
твайго прыпаду,
Да прачыстай
тваёй крыніцы.
І ў дзень судны
да ранку пайду
У Сабор твой
высокі маліцца.*

*Будзе песня
гучаць уначы,
Дзіўны свет
над іконай іскрыцца.
Сэрца беднае
ты навучы,
Галавой дзе
скажы прытуліцца.*

*У сэрцы нашыя
цэляць штодня:
То каменне, то скруха,
то здрада.*

*А высокая ж думка
Тварца
Чалавека раджала
на радасць*

*І духоўную сутнасць
сваю
У гарачае сэрца
ўкладала.
У гэтым хоры
суладным спяваю
Тую песню, якой
не ставала.*

*Тут праўда мая,
надзея мая
І любоў тут мая
векавая.
Ды мацней за ўсё
і вышэй за ўсё—
Гэта чыстая вера
святая.*

*Ян ДАНУТА*

## Лампадка

*Глазами грустными
порой
Горит' лампадка
в полутьме,
Мелькает сумрачносць
чредой
В косматых лапках
на стене.*

*Тревогой странною
на грудь
Головку бархатную
шмель
Склоня, садится
отдохнуть,
А в окнах старых
плачет ель.*

*Последний вздох
и дрожь зеркал,
Мерцанье звёзд
над образами
И сон янтарных
опахал,
Вода холодными
глазами...*

*Таинственный, до
донушка простой,
В ночь капает со
вздохом воск густой...*

## Мистический знак

*Чей-то голос застонет
во мгле,
И в объятьях метели
звезда
Синий свод разорвёт,
как вода
Разрывает гранит
на скале.
По два в ряд колесницей
мольбы
Загудят истуканы-
столбы —
Неустанный мистический
знак.
Опять снег валит
густо и вслед
По пути задевает покров
Тех непрошеных
снов-жерновов,
Что пронзают,
как утренний свет.
Суть бедна,
коль под маской она.
Ранит слух чей-то голос
во мгле.
Он на ощупь идёт
по земле,
На глазах у него пелена...
И в объятьях метели
слеза.*

*Виталий ВИСЛИНСКИЙ*

## Миниатюры

***

*Он был не глуп и не умён.
Его величье — местный трон.*

***

*Достаток вовсе не в зарплате —
Трудись на мясокомбинате.*

***

*В любое царствие дракона
Считалась правда вне закона.*

***

*Чтоб сохранить блеск своей шкуры,
Стань в нужный ряд номенклатуры.*



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

I

Косця, Пеця і Вадзім — выпускнікі 11-га класа — сядзелі ў Пеці на дачы, рыхтаваліся да чарговага выпускнога экзамена па гісторыі.

За адчыненым акном весела шчабяталі птушкі, свяціла сонца.

— Ві-ка, ідзеш на возера купацца? — данёсся ў пакой гарэзлівы дзявочы галасок.

— Яны на возеры купаюцца, а мы сядзім, гісторыю вучым. Цьфу! — плюнуў Пеця і шпурнуў падручнік на канапу.

— Ты ім зайздросціш, а яны, магчыма, табе зайздросцяць, — пазяхнуўшы, прамовіў Косця. — У цябе дача, можна сказаць, свая.

— А ў цябе прыватны дом на два канцы. І ты адзіны сынок у татулькі і матулькі. Табе дача не трэба, — не сцярпеў Пеця.

Косця чмыхнуў, як вожык.

— Ты ў канцы траўня правы на легкавушку атрымаў, а першага чэрвеня бацька табе "Мерсэдэс" з Германіі прыгнаў.

На гэтым "Мерсэдэсе" хлопцы прыехалі на дачу.

Пеця даланёю выцер з ілба пот і зыркнуў на Косцю...

— Хлопцы, не сварыцеся. Вы, відаць, ад экзаменаўператаміліся, — заўважыў Вадзім.

— А ты неператаміўся? — агрызнуўся Пеця.

— Ты экзамены здаеш толькі на пяцёркі. Пяцёркі нялёгка даюцца, — дадаў Косця.

Вадзім устаў з крэсла:

— Адкрыць вам адзін сакрэт?

— Давай, — крыва ўсміхнуўся Пеця.

— Хлопцы! — урачыста, як на святочным сходзе, пачаў Вадзім. — Я экзаменаў не баюся, бо загадзя ведаю, які білет выцягну.

— Ён ведае! — хмыкнуў Пеця.

— Дзе ж ты сабе такога добрага падказчыка знайшоў? — ухмыльнуўся Косця.

— Перад кожным экзаменам я ў цяжарнай жанчыны альбо ў п'янага мужчыны пытаюся: "Скажыце, які білет я заўтра выцягну?" Скажуць, што дзесяты — дзесяты выцягваю, скажуць, што...

— Смяешся з нас! — перапыніў Вадзіма Пеця.

— Не верыце? Што ж, я не збіраюся вам даказваць, — развёў рукамі Вадзім.

— Хто ж табе адкрыў гэты сакрэт? — з'едліва прагаварыў Косця.

— Вядзьмарка.

Пеця ўстаў і ўзяў са стала ключы ад легкавушкі.

— Годзе агарод гарадзіць. Усё. Навучыліся мы. У горад паедзем...

II

Ён спыніўся каля невялікай драўлянай хаткі, перад якой раслі густыя кусты бэзу, а каля плота ўзвышаліся вішні. Паглядзеў на нумар хаты і накіраваўся на падворак. Да хаты вяла пратаптаная дарожка, роўная, як нітка.

Хлопец увайшоў у нізенькія сенцы і стаў, чакаючы, пакуль супакоіцца дыханне.

— Заходзь, не тапчыся. Я цябе бачу, — з-за абабітых цыратай дзвярэй пачуўся старэчы голас.

У яго задрыжалі ногі.

— Заходзь! Каму сказала?

Ён стаў у парозе, выцягнуўшыся, як вой на службе.

— Табе хто патрэбен? — жанчына маленькімі вострымі вочкамі свідравала яго наскрозь.

Ён каўтаў сліну. Разгубіўшыся, сам не ведаў, з чаго пачаць.

— А-а-а! Табе патрэбна вядзьмарка! — усміхнулася жанчына, паказаўшы ўстаўныя металічныя зубы. — Я вядзьмарка. Ты думаў, што ў мяне клюка і нос кручком?

Яму раптам стала горача. На лобе і скронях выступіў пот.

— Я хачу, каб вы зрабілі нагавор, — як у сне, прамовіў ён.

— На каго, галубок? — ласкава спытала вядзьмарка.

— На сябра.

— Зайздросціш яму?

Ён чамусьці паглядзеў на ходзікі і махнуў галавою:

— Вельмі зайздрошчу.

— Сухоты нагнаць ці розум адняць? — пацікавілася вядзьмарка.

— Розум адняць. Каб экзамен не здаў.

— Да мяне ўжо прыходзіў адзін, каб зрабіць нагавор на сябра, — не загаварыла, здалося яму, а завыла вядзьмарка. — Так і быць, выканаю тваё жаданне. Вочы заплюшчы.

Ён заплюшчыў вочы. Баяўся маргнуць. Кухню, адчуў, завалакло дымам. У яго закружылася галава, па шчаках папаўзлі кропелькі поту. Ён спіной прытуліўся да дзвярэй, каб не ўпасці...Нарэшце пачуўся незвычайна ласкавы голас вядзьмаркі:

— Галубок, расплюшчы вочы.

Ён расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ў печ павольна плыве клуб дыму. Хлопец міжволі разявіў рот. А вядзьмарка працягнула яму чорны, закопчаны дымам, канверт.

— Галубок, вазьмі гэты канверт, не стой слупам. Пакладзеш яго непрыкметна свайму сябру ў кішэню пінжака перад экзаменам.

Ён узяў у вядзьмаркі канверт, кінуў на стол некалькі скамечаных грашовых купюр і выскачыў з хаты.

III

Пасля экзамена Пеця, Косця і Вадзім зноў сабраліся на Пецевай дачы. За адчыненым акном весела шчабяталі птушкі...

— Віка, на двары так прыгожа! У мяне душа спявае! — данёсся ў пакой дзявочы голас.

— У яе душа спявае, а мне плакаць хочацца! — як пакрыўджанае дзіця, тупнуў нагой Пеця.

Косця тыцнуў пальцам, паказаўшы на Вадзіма:

— Пеця, і ў яго душа спявае. Ён экзамен на пяцёрку здаў, а мы з табой троечкі ледзь атрымалі.

Вадзім праваю рукой дастаў з кішэні пінжака закопчаны дымам канверт і працягнуў яго Косці.

— Косця, табе прывітанне ад вядзьмаркі. Вазьмі.

Косця заморгаў вачыма.

— Ты з мяне здзекуешся?

— Здзекуецца. Весела яму, — як іголкай, кальнуў Вадзіма Пеця.

Вадзім леваю рукою дастаў з кішэні пінжака яшчэ адзін закопчаны дымам канверт і працягнуў яго Пеці.

— І табе прывітанне ад вядзьмаркі. Вазьмі.

Пеця, няўжо і ты хадзіў да вядзьмаркі? — не стрываў Косця.

Пеця кіўнуў галавою, паказаўшы на Вадзіма:

— І як ён пра гэта давedaўся? Цікава!

—Тая вядзьмарка — мая бабуля, — паведаміў Вадзім.

— Родная? — разам усклікнулі Косця і Пеця.

— Родная, па маме. Я ўчора ў бабулі на ложку ляжаў і чуў, як вы прасілі яе, каб розум мне адняла. Бабуля ведала, што я з вамі сябрую... Ды не чырванейце, хлопцы. Я не злуюся, вы проста перавучыліся, і ў вас здалі нервы.

— Каб мне такую бабулю-вядзьмарку, — усклікнуў Пеця, — я і дачу, і "Мерсэдэс" аддаў бы!

— А я і "Жыгулі" не пашкадаваў бы! — дадаў Косця.

— Не, хлопцы, з вамі, бачу, піва не зварыш. Хворыя вы, — сказаў Вадзім і, кінуўшы на падлогу закопчаныя канверты, выйшаў на двор.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

## Четверостишия Николая ГРИГОРЬЕВА

***
*Ничто не вечно под луной, —*
*Так думал молодой повеса,*
*Неся в бауле за спиной*
*Лося убитого из леса.*

***
*Сейчас, конечно,*
*изменились времена,*
*Нет ныне ни Сталина, ни Берии,*
*Но будет, видимо, нам всем хана*
*В "вертикальной"*
*нынешней империи.*

***
*— Я неудобства причинить*
*Вам не хотела,*
*Трамвай рванул,*
*и я к вам на колени села.*
*— Да, право же, конечно,*
*Вы неловки,*
*Ну, ладно уж, сидите*
*до полной остановки.*

***
*Судиться-ссориться с начальником—*
*Себе же во сто крат дороже,*
*Эх, звездануть бы медным чайником*
*По его наглой сытой роже.*

***
*Я помню чудные мгновенья:*
*Гостили на моем столе*
*Балык, сибирские пельмени,*
*Коньяк, грильяж, халва, суфле...*

***
*Чтоб стать с богемой в один ряд,*
*Чтоб с губернатором тягаться,*
*Жениться надо в шестьдесят*
*На девушке, которой двадцать.*

***
*Не пил вина и водки он,*
*Коньяк не пил и пива даже,*
*Но весь скупил одеколон,*
*Который был в сельпо в продаже.*

***
*Цветов букетик полевых*
*Жене своей я подарил,*
*И тут же получил "под дых".*
*За то, что весь аванс пропил.*

***
*У простого алкаша*
*За душою ни шиша.*
*Если б даже шиш и был —*
*Все равно б его пропил.*

***
*На мясо и масло, фрукты и сало*
*Раньше зарплаты с избытком хватало,*
*Сейчас же хватает,*
*прошу я прощенья,*
*Чтоб не загнуться от истощенья.*

***
*Отдельный столик в ресторане,*
*Не широкий и не узкий,*
*И, заплатив большие "мани",*
*Под ним спит "новый белорусский".*

***
*Как доказал Альберт Энштейн:*
*Ведь относительно все в мире.*
*Иные, как коньяк, портвейн,*
*Как в ресторане, пьют в сортире.*

***
*Два кусочка колбаски*
*С рождества я втихаря припас,*
*Доживем, даст Бог, до Пасхи,*
*Будет "закусь" мировой у нас.*




**Алег КАРПОВІЧ, мастак:**



1. Год мінулы быў звычайным, як і папярэднія чатыры. Нядобрым. Невясёлым. Нядрэнным. Абсурдным.

2. У наступным годзе пераменаў чакаць таксама не трэба. Але паступова жыццё ў Беларусі будзе ісці да лепшага. Мяркую, што нешта падобнае, у станоўчы бок, адбудзецца і ў нас, што адбылося ў Расіі падчас выбараў. Чатыры гады назад там поўную перамогу на выбарах атрымалі камуністы, цяпер — не. Моладзь і дэмакратыя ў Расіі атрымалі першую перамогу. Нешта падобнае, я спадзяюся, чакае і Беларусь.







## Фразочки

■ Товарищи спортсмены! Подойдите к главному судье соревнований для жеребьевки! Кто отжеребился, могут пройти к своим машинам.

■ Мясокомбинату требуются в цех по разделке кроликов убийцы и шкуродеры.

■ Дети до пятилетнего возраста проходят в цирк на руках.

■ Ресторан не работает, официантки все распущенные.

■ Вставление зубов по средам и пятницам. Выставление зубов ежедневно с 9 до 17 часов.

■ 11 июля в парке вечер: "У нас на костре лучшие люди села".

■ Ввиду холода в рентгенкабинете делаем только срочные переломы.

■ Совхоз "Солнечный" закупает телок от частных лиц черно-пестрой масти.

■ Граждане! Света не будет в ближайшие дни по причине быка, сбежавшего с фермы и забодавшего телеграфный столб.

■ Новогодний вечер по согласованию с администрацией перенесен на 8 марта.

■ Товарищи! За разменной монетой к водителю не обращайтесь. Размножайтесь между собой.

■ В 7 вечера в среду в третьем подъезде состоится собрание. Повестка дня: выборы домового.

■ Получить книгу жалоб можно у директора бани раздевшись.

■ Автопредприятию требуются пенсионеры для подогрева.

■ "Перевел 10 девушек в женщин третьего разряда", — из отчета тренера по баскетболу.

## Вопросы и ответы

***
— Может ли немецкая овчарка стать бульдогом?
— Может, если ей отрубить хвост и набить морду.

***
— Какое сходство между телевышкой и женской ножкой?
— Чем выше, тем больше дух захватывает.

***
— Почему петух поет всю жизнь?
— Потому, что у него много жен и ни одной тещи.

***
— Может ли собака получить инфаркт?
— Может, если ей создать человеческие условия.

***
— Есть ли жизнь на Марсе?
— Тоже нет.

***
— Откуда происходят все болезни?
— Все болезни от нервов, только сифилис от удовольствия.

***
— Что такое критика снизу?
— Не можешь — слезай.

***
— Что такое муж?
— Это заместитель любовника по хозяйственной части.

***
— Какая разница между мужем и директором?
— Директор знает своего заместителя, а муж нет.

***
— Можно ли гладить капрон?
— Не можно, а нужно, если он на красивой женской ножке.

***
— Чем отличаются орехи от мужа?
— Орехи грызут, когда есть деньги, а мужа грызут, когда нет денег.

***
— Будет ли любовь при коммунизме?
— Не будет денег, не будет любви.

***
— Можно ли прожить на одну зарплату?
— Не знаем, не пробовали.

***
— Что может дать самая красивая женщина Слонима?
— Она не может дать больше того, что может дать.

***
— Что надо делать, когда на тещу напал тигр?
— Сам напал, сам пусть и защищается.

***
— Как в комнате уничтожить клопов?
— Надо их загнать под шкаф, а у шкафа подпилить ножки.

***
— Какой самый красивый город? Сколько надо атомных бомб, чтобы его уничтожить?
— Слоним красивый город, но Москва — лучше.

ТЭСТ

# ВЫ ПЕСІМІСТ ЦІ АПТЫМІСТ?

**У навагоднюю ноч загадваюць жаданні, варожаць. Часта робяць гэта, не ведаючы, хто вы па натуры: песіміст ці аптыміст, ад чаго ў вялікай ступені залежаць здзяйсненне вашых жаданняў і выніковасць варажбы.**

Праверце сябе. Для чаго адкажыце шчыра на пытанні. Зразумела, што трэба выбраць толькі адзін варыянт адказу.

1. ***Якіх людзей вы любіце?***
а) старых,
б) малых,
в) жанчын (мужчын),
г) "зорак" і начальнікаў.

2. ***Дзе вы хаваеце бутэльку віна, якую прынеслі дадому з гастранома?***
а) у халадзільніку,
б) пад сталом,
в) у кішэні паліто,
г) пад падушкай ці ў туалетным бачку.

3. ***Ваша любімае свята?***
а) Восьмага сакавіка,
б) першага красавіка,
в) дзень зарплаты,
г) калі жонка (муж) ад'язджае ў адпачынак.

4. ***Чым вы праціраеце кухонны стол?***
а) спецыяльнай анучкай,
б) ручнікам,
в) тым, што трапіцца на вочы,
г) кашуляй мужа (жонкі).

5. ***Дзе вы нарадзіліся?***
а) у вёсцы,
б) у горадзе,
в) у трамваі, тралейбусе, аўтобусе, маршрутным таксі,
г) у камандзіроўцы.

6. ***Колькі разоў вы былі жанатыя (замужам)?***
а) адзін,
б) два,
в) тры,
г) дзесяць і болей.

7. ***Якой музыцы вы аддаяце перавагу?***
а) класічнай,
б) джазавай,
в) эстраднай,
г) застольнай.

8. ***Як вы адкаркоўваеце бутэлькі з півам?***
а) адкрывалкай,
б) відэльцам,
в) аб край стала,
г) зубамі.

**А цяпер падвядзіце вынік.**
За адказы налічыце балы:
а — 2, б — 3, в — 4, г — 5.

**Падсумуйце.**

Калі вы набралі ад 16 да 23 балаў, вы — песіміст, не верыце, што светлая будучыня не за гарамі.

***Ад 24 да 30 балаў*** — вы яшчэ спадзяецеся, што праз год-другі цэны паменшацца, зарплата пабольшае, а на выбарах пераможаць рэфармісты, путчысты і г.д. Ваш лозунг: "Мы яшчэ вернемся".

***Ад 31 да 35 балаў*** — вы нешта сярэдняе паміж песімістам і аптымістам. Вы не ведаеце, чаго вы хочаце, але затое добра ведаеце, чаго не хочаце.

***Ад 36 да 40 балаў*** — вы сапраўдны аптыміст. Вы любіце людзей, навагоднія свята, жонку (мужа), сеседку (суседа), селядзец, салёны агурок, цыбулю, гарэлку, чымергес. У любой кампаніі вам добра, утульна і цёпла. Ваш лозунг: "Аптыміст аптымісту — сябар, таварыш і брат".

## Новогодний ТОСТ

Выпьем за хороших людей — нас так мало осталось!

За новогодним столом мы собрались для того, чтобы выпить... Так выпьем же за то, что мы здесь собрались!

Поднимаем бокалы за то, чтобы в новом году каждый слонимский мужчина встретил свою Джоконду, которую можно разглядывать, не финансируя.

Чтобы в новом году столы ломались от изобилия, а кровати — от любви!

Великий человек старается обогнать время. Умный человек идет в ногу с ним. Храбрый старается, чтобы время работало на него. А глупый становится поперек времени. Коллектив "Газеты Слонімскай" пьет за вас, дорогие наши читатели, чтобы в новом году вы обгоняли время и шли в ногу с ним!

ГУМАРЭСКА

# СЯБРЫ І СЯБРОЎКІ

У той дзень Арнольд Жычка прыйшоў дадому рана: будзільнік на кухонным стале паказваў восем гадзін раніцы. Ён нагнуўся, каб разуцца і схаваць ад Аляўціны сваю задаволеную ўсмешку.

— Дзе гэта цябе насіла, каб цябе ўперад нагамі вынеслі ў новых тапках, — прамовіла жонка, заварваючы гарбату.

— У Аслана быў, у сябра. Не верыш — пазвані, — пайшоў на рызыку Арнольд.

— І не веру, і пазваню, — паабяцала Аляўціна. У вялікіх пакаёвых тапках, як у ластах, яна прашлёпала ў спальню, дзе стаяў тэлефонны апарат. Арнольд, стрымліваючы дыханне і сэрцабіццё, прыпаў вухам да паралельнага апарата, што стаяў на палічцы ў цёмным калідоры.

— Аслан, — узяла з месца ў кар'ер Аляўціна. — Мой абармот недзе цэлую ноч швэндаўся. Дома не начаваў. Можа ў цябе быў?

— У мяне, вядома, у мяне, — хуценька абазваўся Аслан. — Дзе ж яму яшчэ быць, Аляўцінка? Вось ён і цяпер у мяне сядзіць. Гарбату п'е. Хутка на работу разам пойдзем. Ён табе прывітанне перадае і паветраны пацалунак. Арнольд пачуў, як у трубцы раздаўся гук, нібы ў балота ўпала цагліна.

— Чуеш? — пацікавіўся Аслан.

— Азіят, — канстатавала Аляўціна. — Каб цябе радня цалавала абмытага і пераадзетага ва ўсё новае.

Яна паклала трубку і, ляскаючы сваімі тапкамі-ластамі, вярнулася на кухню, дзе, квітнеючы ад патаемнай радасці, Арнольд ужо сёрбаў з кубка гарбату.

Наступіла нямая сцэна.

А вечарам, калі абое прыйшлі з работы, Аляўціна намазала вочы імпартнай сінькай, адзела любімую сукенку колеру чорнай ікры і, па-англійску, не развітваючыся, пакінула свае двухпакаёвыя апартаменты.

Вярнулася раніцай, на золку, калі яшчэ чэрці на кулачкі не браліся. Была стомленая. Давала аб сабе знаць бяссонная ноч, праведзеная на вакзале.

— Дзе ты была? — пацікавіўся Арнольд.

— Дзе я была, там мяне ўжо няма, — мудра адказала жонка, з усіх сіл стараючыся быць вясёлай і бесклапотнай. Потым падумала і дадала:

— У Нюркі была, у сваёй лепшай сяброўкі, не верыш — пазвані.

На гэты раз Арнольд пайшоў да апарата ў спальню, а Аляўціна, хаваючыся ад мужа, узяла трубку ў цёмным калідоры.

— Нюрачка? Добрай раніцы, — велюравым голасам прамовіў Арнольд. — Мая Аляўціна не ў цябе часам сённяшнюю ночку правяла?

— А што, дома не начавала? — пачула Аляўціна сваю сяброўку. — І ты гэтаму здзіўляешся? Я ж табе яшчэ да вашага вяселля казала, што яна такая. Так што варушы мазгамі...

У трубцы затукалі гудкі. Аляўціна са злосцю кінула яе на рычаг і пачала апранацца: трэба было тэрмінова ехаць да Нюркі высвятляць адносіны.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

